Уладзімір Лапцэвіч

## ЦІ ЗНОЙДЗЕ ЎВАСАБЛЕННЕ ПАМЯЦЬ АБ УСПЕНСКАЙ ЦАРКВЕ?

**Успенская царква, што стаяла непадалёк ад упадзення Дубравенкі ў Днепр на правым беразе абедзьвюх рэк, была зруйнаваная ў адну ноч з Ратушай. Ратуша сёння адноўлена. Калі і ў што ўвасобіцца памяць аб Царкве Успення Прасвятой Багародзіцы, дзе знаходзіўся каштоўны для ўсіх беларусаў абраз "Нараджэння Маці Божай", пакуль невядома нікому.**



Успенская царква - гэта яскравы прыклад Магілёўскай школы дойлідства. Яна была пабудаваная ў 1670 годзе ў стылі барока, на паўднёва-ўсходняй ускраіне горада непадалёк ад Дняпра, у комплексе з невялікай «цёплай» царквой і званіцай. Мела мураваны трохапсідны крыжова-купальны храм (у плане лацінскі крыж). Асноўныя аб'ёмы былі пакрытыя ўзаемна перпендыкулярнымі двухсхільнымі дахамі з трохкутнымі франтонамі на тарцах. На сяродкрыжжы на масіўным шматгранным барабане знаходзіўся купал з галоўкай. Невялікія паўцыркульныя апсіды, бакавыя ўваходныя тамбуры, якія прылягалі да крылаў трансепту, і гранёны тамбур галоўнага ўваходу дапаўнялі кампазіцыю і падкрэслівалі яе крыжова-цэнтрычны характар. Сцены былі расчлянёныя пілястрамі і прарэзаныя паўцыркульнымі аконнымі праёмамі ў арачных нішах. Асноўны неф быў перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, крылы трансепту — крыжовымі скляпеннямі, распавядаецца пра Успенскую царкву ў энцыклапедычным даведніку "Архітэктура Беларусі", які выйшаў у Мінску ў 1993 годзе.

Але найбольшую вядомасць царкве прынёс унікальны абраз "Нараджэння Маці Божай" (1672 года), які знаходзіўся ў ёй. Яго намаляваў мастак Пётр Еўсяевіч з Галынца, распавёў "Нашаму Магілёву" першы дырэктар Музея гісторыі Магілёва, кандыдат гістарычных навук Ігар Пушкін. "Гэта не проста ікона, а карціна. Калі прыглядзецца, то на абразе "Нараджэнне Маці Божай" жанчыны апранутыя ў беларускія галаўныя ўборы жаночыя, беларускі арнамент, праз адчыненае акно бачны горад. Пра гэтую карціну шмат хто пісаў. Яна лічыцца шэдэўрам Магілёўскай школы іканапісу", - кажа гісторык.

"Сучасныя даследаванні ставяць пад пытанне аўтарства Пятра Еўсяевіча з Галынца. Магчыма, ён быў заказчыкам работы, а сам абраз напісаў таямнічы Зураста", - адзначае на сваёй старонцы ў Livejornal цяперашні дырэктар Музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў. Пры гэтым ён падкрэслівае, што абраз «Нараджэнне Маці Божай» называюць адным з тых твораў мастацтва, які абавязаны пабачыць кожны беларус.

Як бы там не было, цяпер у Магілёве ёсць магчымасць убачыць толькі спіс з іконы, які знаходзіцца ў Ратушы. Уласна магілёўскае "Нараджэнне Маці Божай", якое вісела ва Успенскай царкве, цяпер месціцца ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Мінску.

Што ж тычыцца нашай царквы, то, паводле Пушкіна, там не толькі абразы былі цікавыя, але і роспісы. Іх мы наўрацці калісьці пабачым, "дзякуючы" бальшавіцкім цемрашалам, што ў 1957 годзе зруйнавалі храм. Пра тое разбурэнне добра распавядаецца ў артыкуле магілёўскага журналіста Мікалая Ножнікава "Стояла церковь над Днепром" ("Веснік Магілёва" ад 19 сакавіка 2010 года), дзе прыводзяцца словы аднаго са сведкаў той падзеі – Івана Бяляева, жыхара вуліцы Заводскай. Паводле старажыла, летняй ноччу 1957 года прыехалі сапёры з Пашкава, пакапаліся, заклалі выбухоўку і а трэцяй гадзіне ночы ўзарвалі царкву. "Воистину «ювелирная работа». Людей даже не удаляли из домов, только посоветовали заклеить окна бумажными полосками, как это делали в войну при артобстрелах и бомбежках", - распавядаецца ў артыкуле.

Камуністычная барацьба з рэлігіяй часам не пакідала нават магчымасць выкарыстання будынка царквы пад іншыя патрэбы. Пры тым, што, паводле Бяляева, пасля вайны ў ім былі склад і кравецкая майстэрня нейкай вайсковай часткі.

"Прекрасный памятник, частицу богатой истории нашей, возможно, уже не вернуть. Хотя, как сказать. Зная о возрождении Минской и Могилевской ратуш, Витебских Успенской церкви из 17-го и Благовещенской из 12-го (!) веков. Сейчас на «падмурках» нашей Успенской высится нелепый 4-этажный офис - барак из силикатного кирпича - без малейших признаков архитектуры, построенный когда-то в 3 этажа для областного автотреста", - піша Ножнікаў.

Па меркаванні Ігара Пушкіна, для пачатку трэба хаця б неяк пазначыць месца, дзе стаяла Успенская царква. "Наконт абазначэння Успенскай царквы ў свой час была размова. Было некалькі варыянтаў. Адзін з варыянтаў, якое прапанавала Таварыства аховы помнікаў, пліткай выкласці па перыметры контур гэтага храма", - кажа гісторык.

Другі варыянт – пасадзіць кустарнік і прыдаць яму форму сцяны царквы.

"Канешне, лепшы варыянт трэці – праводзяцца раскопкі і потым кансервацыя. Альбо шкляны калпак над вярхом, каб былі бачны падмуркі, раскапаныя па перыметру царквы", - адзначае Пушкін.

Але, паводле яго, ёсць і яшчэ адзін варыянт. "Распрацаваць подыюм, а на ім макет – можа аб'ёмны, можа паўаб'ёмны на пліце. Каб месца знаходжання храму неяк абазначыць. Хаця былі прапановы, што можна інфармацыйныя стэнды ўстанавіць, альбо на сцяне бліжэйшага дома намаляваць храм, які тут стаяў", - распавёў пра магчымасці вяртання памяці аб Успенскай царкве Ігар Пушкін.

# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu

№84

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў, вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 9 снежань 2014 г.

ГРАМАДСТВА

Якуб Корсак

## ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР ГАЗЕТЫ «НАШ МАГІЛЁЎ» ВЫКЛАЎ СВАЁ БАЧАННЕ ПЛОШЧЫ СЛАВЫ

**Усе прапановы Ігар Барысаў выслаў на адрас старшыні Магілёўскага гарвыканкама Уладзіміру Цумараву.**




**Апісанне праблемы**

Плошча Славы змяніла сваю назву і адпаведна мусіць цяпер змяніць і свой змест. Яшчэ ў часы антычных філосафаў казалі, што ўсё пачынаецца са змены імёнаў. Нягледзячы на тое, што Плошча Славы знаходзіцца ў гістарычным цэнтры горада яна не прадстаўляе фактычна ніякай цікавасці для грамадзян, бо па-першае яна тупіковая (дарога праз яе як раней не ідзе ў Задняпроўе), а па-другое - яна пустая (на ёй няма пэўнай колькасці прыцягальных аб'ектаў). Фактычнае яе напаўненне людзьмі адбываецца толькі падчас розных святочных мерапрыемстваў, а таксама канцэртаў. Выключэнне складаюць вясяляльныя картэджы, якія транзітам праязджаюць скрозь плошчу.

На плошчы адбываецца перамяшэнне архітэктурных стыляў і эпох – як мы бачым будынкі Ратушы, дома грамадзянскіх абрадаў і Магілёўскага абласнога краязнаўчага музею моцна кантрастуюць з цагляными хрушчоўкамі, а таксама мемарыялам "Змагарам за Савецкую ўладу". Архітэктурныя аб'екты не належыць да адной гістарычнай эпохі і ў гэтым хіба плошчы. Апроч таго, пасля адбудовы Ратушы на плошчы з'явілася другая дамінанта, што само па сабе не вельмі добра з пункту погляду фармавання плошчы, дзе па архітэктурных законах на ёй не можа быць больш за аднаго дамінуючага аб'екту.

На плошчы няма людзей таксама і таму, што на ёй няма гандлёвых крамак з сувенірнай прадукцыяй, а таксама нейкіх міні-атракцыёнаў.

**Савецкая спадчына**

Яскравым помнікам савецкай эпохі з'яўляецца стэла "Змагарам за Савецкую ўладу", якую ў народзе празвалі "Аксана, якая бяжыць з Лаўсана", а таксама брацкая магіла чырвонаармейцам, якія загінулі ў змаганні з белапалякамі (сама фармулёўка белапалякі вымагае канкрэтызацыі, бо сярод гэтак званых белапалякаў было багата беларусаў). Даваршае фарміраваць плошчу алея Герояў Савецкага саюза.

Менавіта савецкая спадчына плошчы і з'яўляецца краевугольным камянём, які не дазваляе надаць плошчы Славы губернскі стыль. Гэта не азначае, што мемарыял "Змагарам за Савецкую ўладу" разам з барыльефамі, а таксама алеяй герояў неабходна выкінуць на сметніцу – гэта паказвае на тое, што ўсё гэта можна перанесці ў іншае месца.

Працяг на стр.3

Уладзімір Лапцэвіч

## В МОГИЛЕВЕ БЕЗДЕЙСТВИЕ ВЛАСТЕЙ ВЕДЕТ К РАЗРУШЕНИЮ СТАРИННОГО ДОМА ПО ПЕРЕУЛКУ КОМИССАРИАТСКОМУ 17



Могилевская независимая пресса много писала про ненадлежащее состояние дома по переулку Комиссариатскому 17, который внесен в список историко-культурного наследия. Власти города не предпринимают никаких мер по его сохранению, из-за чего здание разрушается, уверен председатель Могилевской областной организации Белорусского общества защиты памятников истории и культуры Владимир Кравченко.

Владимир, чем интересен для нашего города дом по переулку Комиссариатскому 17?

Таких зданий в нашем городе были когда-то сотни. Это типичное здание богатых состоятельных горожан, которые сумели построить жилье в центральной части Могилева, и, конечно, украсили деревянной резьбой по всему периметру. В настоящее время сохранилась резьба только в отдельной, фасадной части здания. Другого подобного старинного здания, которое так хорошо сохранилось в нашем городе, просто нет. Поэтому оно уже само по себе уникальное. Нет такого здания ни в Минске, ни в других районных и областных городах нашей республики.

Продолжение на стр.2

■ Якуб Корсак

## У МАГІЛЁВЕ РАСПАЧАЎСЯ ЗБОР ПОДПІСАЎ ЗА АДРАДЖЭННЕ ДУБРАВЕНСКАЙ БРАМЫ

**Яго ініцыятарам выступіла рэдакцыя незалежнай газеты "НАШ Магілёў".**



Паводле галоўнага рэдактара выдання Ігара Барысава адроджаная Дубравенская брама можа стаць яшчэ адным сымбалем горада і стаяць у адным шэрагу з Ратушай, Драматычным тэатрам, Астролагам, касцёлам святога Станіслава і Свята-Мікольскім манастыром.

- Ідэя адраджэння Дубравенскай брамы сярод магілёўскіх гісторыкаў і грамадскіх актывістаў з'явілася ўжо даўно. Нешта прадпрымалася раней, але мясцовыя ўлады не былі ў гэтым зацікаўлены. На месцы дзе некалі стаяла Дубравенская брама ўладамі прапаноўвалася зрабіць аглядальную пляцоўку, аднак яна там так і не з'явілася, што ў прынцыпе добра, бо засталося месца для адраджэння гэтай брамы, - кажа Ігар Барысаў.

Рэдактар незалежнага выдання лічыць, што для адбудаваная Дубравенская брама стане выдатным успамінам пра Магілёўскі замак, ад якога на дадзены момант нічога не засталося. У якасці ўзору для адбудовы брамы "НАШ Магілёў" прапаноўвае малюнак магілёўскага мастака Базыля Камарова.

-Наша ініцыятыва па адраджэнні Дубравенскай брамы своечасовая, бо як раз у гэты момант кіраўнік горада Уладзімір Цумараў збірае прапановы па таму, як павінна выглядаць плошча Славы, бо чакаецца яе рэканструкцыя. Дубравенская брама знаходзіцца недалёка ад гэтай плошчы, у двары д.2 па вуліцы Першамайскай і можа стаць цудоўным напамінам пра часы Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, напамінаў пра якія ў магілёўскай архітэктуры засталіся адзінкі. Тым больш, што дагэтуль існуе завулак Брамны, які захаваў сваю назву праз стагоддзі, аднак брамы так і няма, - кажа Ігар Барысаў.

Трэба адзначыць, што збор подпісаў адбываецца ў межах інфармацыйнай кампаніі "Захаваем стары Магілёў", мэта якой заключаецца ў недапушчэнні руйнавання гістарычных будынкаў Магілёва, іх своечасовым рамонце, а таксама адраджэнні гісторыка-культурнай спадчыны.

## В МОГИЛЕВЕ БЕЗДЕЙСТВИЕ ВЛАСТЕЙ ВЕДЕТ К РАЗРУШЕНИЮ СТАРИННОГО ДОМА ПО ПЕРЕУЛКУ КОМИССАРИАТСКОМУ 17 (НАЧАЛО НА СТР.1)

**Это здание было построено в 1898 году. Неужели с того времени ни разу не реконструировалось?**

Были перестройки, сделанные в послевоенный период времени. Но не фасадной, а внутренней части дома. Была пристроена балконная часть, которую при необходимости легко убрать, чтобы сохранить здание таким, каким оно было. В фасаде практически ничего не поменялось. И даже ремонтных работ в последние 15-20 лет, которые серьезно что-либо изменили, в этом здании не проводилось. Даже окраска деревянных деталей не производилась в последнее время. Большая часть украшений здания сохранилась с XIX столетия.

**Что сегодня происходит с этим историческим зданием?**

Официально власти не заявляют о его сносе. Сейчас жителям, которые проживают там, предлагаются квартиры, чтобы они покинули это здание. И есть уже несколько семей, которые покинули. Т.е. на втором этаже в деревянной части, которая подвергается большему разрушению, чем каменная, уже две квартиры стоят пустые. Причем пустые они уже 10 лет. С этими пустыми квартирами рядом находятся квартиры, где проживают люди. Конечно, соседство не лучшее, когда рядом с тобой неотапливаемое помещение - оттуда идет и сырость, и гниль, и прочее.

За последние 10 лет ни копейки на ремонт этого здания жилищно-эксплуатационные организации не отпускали. Хотя с жильцов берут деньги на текущее обслуживание, коммунальные платежи, на капитальный и текущий ремонт, но жильцы этого здания ничего не имеют. С каждым годом это здание становится более ветхим, менее пригодным для дальнейшего проживания.

Наибольшему разрушении подвергается верхняя часть дома. И если такая ситуация сохранится, то в скором времени власти придут и составят акт о его частичном износе, скажем на 60% и более. И это будет документ, на основании которого можно будет вывести это здание из списка охраняемых и уничтожить.

**Общество охраны памятников что-то предпринимает, чтобы как-то противостоять такому развитию событий?**

Неоднократные наши обращения по этому вопросу – о том, что нужно изменить отношение жилищно-эксплуатационных организаций к этому зданию, не нашли никакого ответа у властей. Ничего в отношении этого здания не поменялось. По-прежнему политика такая – не сохранить ничего старого. Ну а на плане нового города, разрекламированного еще Шориковым, этого здания вообще нет.



## ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР ГАЗЕТЫ «НАШ МАГІЛЁЎ» ВЫКЛАЎ САВЁ БАЧАННЕ ПЛОШЧЫ СЛАВЫ (ПАЧАТАК НА СТР.1)

Найлепшым месцам для алеі герояў Савецкага саюза і стэлы "Замагарам за Савецкую ўладу" з'яўляецца Буйніцкае поле. Размяшчэнне там гэтых канструкцый узбагаціць калекцыю мемарыяла Буйніцкае поле і зробіць яго больш прывабным для магілёўцаў і гасцей горада.гербаў вобласці і горада пакінуць за адбудаванымі будынкамі.




**Плошча ў губернскім стылі**

Нават без пераносу стэлы "Змагарам за Савецкую ўладу" ёсць вольнае месца для таго, каб адбудаваць будынак губернскага праўлення, які быў зруйнаваны падчас вызвалення Магілёва Савецкай арміяй. Калі браць комплекса і разглядаць рэканструкцыю плошчы з пераносам стэлы і барэльефаў на Буйніцкае поле, то вызваляецца месца і для дома губернатара. Падмуркі гэтых будынкаў знаходзяцца пад брукаванкай і новыя дамы можна проста паставіць на іх. Падчас адкрыцця Ратушы магілёўскі гісторык Ігар Марзалюк (цяперашні сенатар) казаў прэзідэнту аб магчымасці адбудаваць дом губернскага праўлення і тады гэта ідэя спадабалася Аляксандру Лукашэнкі, аднак далей размовы справа не пайшла. Фотаздымкаў, якія паказваюць як выглядалі дом губернскага праўлення і дом губернатара (такі міні-палац) больш чым дастаткова.

Адбудова дамоў губернскага праўлення і губернатара здолее самкнуць плошчу ў кола будынкаў і завершыць яе выгляд. Такім чынам экскурсаводам будзе што распавядаць як на плошчы Славы, так і на Буйніцкім полі. У адбудаваных дамах прапаную размесціць музей Першай сусветнай вайны, а таксама музей губернскага Магілёва. У адным з будынкаў на першым паверсе размесціць кавярню. Такім чынам плошча будзе насычана месцамі для культурнага адпачынку. Гэта дасць выдатны шанец для правядзення Ночы музеяў больш цікава і маштабна.

**"Разынкі" плошчы**

Акрамя адбудовы ўзгаданых двух дамоў прапаную таксама і звярнуць увагу на шэраг іншых, менш маштабных элементаў. Па-першае, можна адрадзіць "Ганебны слуп", да якога прывязвалі магілёўцаў, якія здзейснілі злачынствы і даць магчымасць магілёўцам быць закаванымі ў ланцугі, каб яны маглі фатаграфавацца; па-другое, каля Ратушы прапаную ўсталяваць помнік магілёўскаму герою Пора-Леванові чу, які выскаквае з шабляй з Ратушы і пасля ягоных крыкаў "Пара! Пара!" пачынаецца паўстанне магілёўцаў супраць маскоўскіх стральцоў, у выніку якога вызваляецца Магілёў; па-трэцяе, размесціць каля адбудаванага дома губернатара фантан (вада заўжды прываблівае людзей); па-чацвёртае, зрабіць некалькі адкрытых крамак, дзе бы мясцовыя рамеснікі гандлявалі сваімі вырабамі (гэта прывабіць турыстаў); па-пятае, флагштокі з выявамі гербаў вобласці і горада пакінуць за адбудаванымі будынкамі.

**Міні-атракцыёны**

Падобнымі міні-атракцыёнамі ў выхадныя дні могуць выступаць прагулка на поні для дзяцей, а таксама катанне ў карэце, сілавыя спаборніцтвы сярод магілёўцаў па армрэслінгу ў адпаведным месцы і г.д.

**Агульная канцэпцыя**

Вельмі важна, каб усе аднаўленыя элементы былі звязаныя ў адну канцэпцыю – дахі ва ўсіх будынках мусяць быць з аднаго матэрыялу і аднаго колеру (нават дахі хрушчовак можна змяніць ў падобную каляровую гаму, а каб яны не дужа шэра выглядалі атынкаваць іх і пафарбаваць), каваныя элементы з металу мусяць быць у адным стылe, каляровая гама будынкаў не павінна кантраставаць паміж сабой.

**Мова**

Усе надпісы павінны быць выканаты як на беларускай, так і на ангельскай мовах. Гутарка ідзе пра пазначальнікі, агульную інфармацыю, назву вуліц. Беларуская мова – гэта тое, што робіць нас беларусамі, робіць нас адметнымі, напаўняе наша існаванне сэнсам у часы глабалізацыйных працэсаў і дазваляе злучыцца з нашымі каранямі. Таму менавіта беларуская мова мусіць стаць яшчэ адной гэтак званай "фішкай" ці "разынка" плошчы.

**Перыяд Рэчы Паспалітай**

Вельмі прыкра было б не ўзгадаць пра перыяд Рэчы Паспалітай, калі Магілёў дасягнуў свайго найбольшага росквіту. Аднак, нажаль, ад таго часу з архітэктурнай спадчыны да нас дайшло зусім мала чаго, ды і тое бязглузда руйнуецца (напрыклад не так даўно знішчылі дом па вуліцы Вароўскага, які належыў да Дома губернатара і ў якім жыў аканом, які быў даволі трывалым і мог прастаяць не адно дзесяцігоддзе. Дом быў пазначаны яшчэ на мапе 17 стагоддзя!!!).

Тым часам узгадваючы часы Рэчы Паспалітай нельга не ўзгадаць пра існаванне Магілёўскага замка, ад якога нічога не засталося. Тым не менш, ёсць незанятае месца, дзе некалі стаяла мураваная "Дубравенская брама" (размяшчалася за д.2 па цяперашній вуліцы Першамайскай). Брама, як раз, глядзела ў Брамны завулак, назва якога захавалася і існуе дагэтуль. Адраджэнне "Дубравенскай брамы" не патрабуе вялікіх выдаткаў, аднак яна ў сваю чаргу можа стаць яшчэ адным сімвалам горада, якім стала Ратуша. Побач з брамай можна адбудаваць частку мураванай сцяны з гарматамі. Побач паставіць міні-атракцыёны (напрыклад "Цір").